


Інфармацыйны бюлетэнь

# Ахова птушак Бацькаўшчыны

BirdLife INTERNATIONAL

№ 1 (28) • 2007



Фота Марціна Фладэ

Арнітолаг Індэга Бінда з Нацыянальнага парку Джудж трымае ў руках першую чаротаўку, што была злоўлена экспедыцыяй.

## У НУМАРЫ:



## ВЯРТЛЯВАЯ ЧАРОТАЎКА Ў СЕНЕГАЛЕ

**Пасля пяці год даследаванняў адмысловая экспедыцыя адкрыла ў Сенегале месца зімоўкі вяртлявай чаротаўкі - еўрапейскай вераб'інай птушкі, якой пагражае знікненне.**

Міжнародная экспедыцыя, у якой удзельнічаў таксама і прадстаўнік Беларусі, правяла тры тыдні ў студзені-лютым 2007 года на паўночным усходзе Сенегала, шукаючы месцы зімоўкі вяртлявай чаротаўкі. Ужо на чацвёрты дзень пошукаў экспедыцыя адкрыла вялікую колькасць чаротавак на тэрыторыі прыкладна ў 100 км2 ў межах нацыянальнага парку Джудж (the Djoudj National Park), які з'яўляецца ТВП (тэрыторыяй, важнай для птушак) у Паўночна-Заходнім Сенегале. Папярэднія ацэнкі, якія былі зроблены для гэтага месца, кажуць пра 5-10 тысяч зімуючых там вяртлявых чаротавак.

Але шлях да гэтага поспеху быў даволі доўгім. На працягу пяці гадоў даследчыкі з Рабочай групы BirdLife International па захаванні вяртлявай чаротаўкі выкарыстоўвалі як высокатэхналагічныя навуковыя метады, так і традыцыйныя метады працы "ў полі", каб вырашыць загадку месцаў зімоўкі вяртлявай чаротаўкі.

*Працяг на стар.7*

## ЖЫВАЯ ВЯСНА - ЗНОЎ У ЕЎРОПЕ!

Вядома, адной з прыкмет пачатку вясны з'яўляюцца птушкі, якія вяртаюцца з зімніх "курортаў" дамой. У гэтым годзе, як і раней, мы будзем назіраць за прылётам добра вядомых і прыкметных птушак: вясковай ластаўкі, чорнага свіргуля, белага бусла і звычайнай зязюлі разам з жыхарамі ўсёй Еўропы. **Зноў пачалася агульнаеўрапейская кампанія "Жывая вясна"!**

Па выніках папярэдняга года, у кампаніі "Жывая вясна" прынялі ўдзел 2289 чалавек па ўсёй Еўропе, якія зрабілі больш за 4000 назіранняў. Кампанія была падтрымана 29 з 42 еўрапейскіх партнёраў BirdLife International. "Некалькі партнёраў, такія як Галандыя, якія не паспелі ўключыць кампанію "Жывая вясна" ў свае нацыянальныя праграмы ў 2006-м, далучаюцца да яе ў 2007 годзе", - паведаміла каардынатар кампаніі Ася Каліноўска з Польшчы. Найбольшая колькасць назіранняў прысвечана беламу буслу (34%), затым - вясковай ластаўцы (33%), звычайнай зязюлі (18%), чорнаму свіргулю (15%). Самым актыўным перыядам назіранняў стаў тыдзень з 27 сакавіка па 2 красавіка, калі было зроблена 488 назіранняў.

Ад назіральнікаў з Беларусі было атрымана 267 паведамленняў. Па гэтым паказчыку мы знаходзімся на шостым месцы сярод краін удзельніц, саступаючы Балгарыі (441 назіранне), Польшчы (434), Іспаніі (312), Ірландыі (299) і Латвіі (269). Нескладана падлічыць, што калі ў кожным мясцовым аддзяленні АПБ у 2006 годзе 11 чалавек заўважылі б усе чатыры віды птушак і занеслі сваю інфармацыю на сайт - і мы будзем пераможцамі! А ў нас жа яшчэ ёсць актыўныя клубы "Крылаты дазор", а таксама шмат неабыякавых сяброў.

Для таго каб прыняць удзел у кампаніі "Жывая вясна" 2007 года і далучыцца да назіральнікаў за птушкамі, неабходна толькі занесці свае назіранні першых прыляцеўшых з выраю птушак чатырох відаў на спецыяльны сайт **www.springalive.net.** Калі ў вас няма доступу да інтэрнэту, неабходна патэлефанаваць ці напісаць пра свае назіранні ў офіс АПБ, і супрацоўнікі офісу змесцяць вашу інфармацыю на сайце. Акрамя назвы віда і даты, трэба ў гэтым выпадку таксама паведаміць інфармацыю аб тым, у якой вобласці вы бачылі птушку, вашы імя і прозвішча, адрас, год нараджэння.

Назірайма разам за прылётам птушак!

Руслан Шайкін

## МНЕНИЕ
### возвращаясь к напечатанному

Согласен с Дмитрием Шамовичем (статья "Красный Бор - природа без края и без… будущего?", "Птушкі і мы", №9, 2006) в оценке происходящих экологических преступлений, которые оказываются санкционированными существующим законодательством. Дополню...

На Голубых озерах (бывшем заказнике, вошедшем в состав нацпарка "Нарочанский") сегодня наблюдаются массовые столпотворения людей (клиентов нацпарка). Так, за выходной день в июле я насчитал почти 300 человек на 5 км так называемой "экологической тропы" вокруг озер. Организованные группы туристов в 40 человек через каждые полчаса превращают некогда относительно дикий край в подобие городского парка. Подавляющее большинство гостей считает обязательным оставить на озерах свой след, превращая их (извините) в общественный сортир. Придите ближе к вечеру на Голубые озера и убедитесь, как приглашенными хамами оплевана и изуродована Богом созданная красота. Туалетная бумага, пивные банки, консервы…

У поляков для охраняемых территорий есть рассчитанные нормы посещения для людей. Почему же администрация нацпарка не воспользуется хотя бы ими? Почему чиновники не обязуют администрацию? Ответ очевиден. Деньги любой ценой!

Когда-то первой визитной карточкой Голубых озер был Ольшевский мост через реку Страчу. Он первым встречал путников. Мост, обросший мхом, над "белой бородой" порогов реки никому не мешал. Никто по нему не ходил, тем более не ездил. Он просто спокойно спал, встречая и провожая людей. Но весной 2005 года в рамках программы "наведения порядка на Земле" мост разрушили!

Нет моста, нет знаменитого порога. Как нет растасканной за последнее десятилетие усадьбы панов Хоменских, находившейся рядом с мостом. Остался речной берег, истерзанный гусеницами тракторов до эрозии. И осталось непонимание этого вандализма. Может быть, под соусом "наведения порядка" доразрушат водяные мельницы Голубых озер? А затем, наверное, и руины Кревского замка…

Игорь Пастухов

## ЕС ЗАПРЕТИЛ ВВОЗ ДИКИХ ПТИЦ

Главы ветеринарных служб стран-членов ЕС на встрече, состоявшейся в Брюсселе, единогласно поддержали решение запретить ввоз в Европу диких птиц, пишет британская The Times. Под запрет попали попугаи и еще около трех тысяч видов диких птиц. Поводом послужили растущие опасения, связанные с возможностью возникновения в ЕС эпидемии птичьего гриппа. Ранее птичий грипп уже неоднократно был обнаружен у диких птиц, ввезенных в ЕС для продажи. Кроме того, принятые меры нацелены на сохранение редких видов пернатых, которые часто становятся объектом отлова с целью последующей продажи.

Решение ветеринарных служб ЕС было с энтузиазмом воспринято представителями групп по охране диких птиц и защите прав животных. По словам директора Королевского общества защиты птиц Великобритании (RSPB) Грэхема Уинна, ЕС сделало большой шаг в деле сохранения диких птиц: "Миллионы птиц будут теперь спасены". По оценкам специалистов RSPB, ежегодно в мире отлавливается около миллиона редких птиц, большая часть которых (87 процентов) затем продается в страны ЕС. Кроме редких птиц, каждый год ловят еще четыре миллиона диких пернатых, которых продают по всему миру. Почти 60 процентов из них умирают до того, как их купят. Между тем сообщается, что ряд стран, таких как США, Австралия и Новая Зеландия, смогут продолжать поставлять диких птиц в ЕС, но с условием, что птицы будут выращены в условиях неволи, а не пойманы. Импортеры должны предоставить документы, удостоверяющие, что птицы не заражены птичьим гриппом и болезнью Ньюкасла. Кроме того, все птицы должны быть окольцованы. В кольцо будет вставлен микрочип, содержащий идентификационную информацию. По прибытии в ЕС птицы будут помещены в карантин на 30 дней.

Источник www.podrobnosti.com.ua

| № п/п | Виды | Кол-во наблюдений |
|---|---|---|
| 1 | Малая поганка *Tachybaptus ruficollis* | 2 |
| 2 | Серая цапля *Ardea cinerea* | 7 |
| 3 | Большая белая цапля *Egretta alba* | 3 |
| 4 | Белый аист *Ciconia ciconia* | 4 |
| 5 | Баклан *Phalacrocorax carbo* | 1 |
| 6 | Лебедь-шипун *Cygnus olor* | 771 |
| 7 | Лебедь-кликун *Cygnus cygnus* | 32 |
| 8 | **Кряква *Anas platyrhynchos*** | 6419 |
| 9 | Чирок-свистунок *Anas crecca* | 4 |
| 10 | Хохлатая чернеть *Aythya fuligula* | 176 |
| 11 | Красноголовый нырок *Aythya ferina* | 22 |
| 12 | Обыкновенный гоголь *Bucephala clangula* | 104 |
| 13 | Большой крохаль *Mergus merganser* | 15 |
| 14 | Луток *Mergellus albellus* | 15 |
| 15 | Длинноносый крохаль *Mergus serrator* | 2 |
| 16 | Турпан *Mellanita fusca* | 1 |
| 17 | Белолобый гусь *Anser albifrons* | 1 |
| 18 | Беркут *Aquila chrysaetos* | 2 |
| 19 | Тетеревятник *Accipiter gentilis* | 27 |
| 20 | Перепелятник *Accipiter nisus* | 34 |
| 21 | Канюк *Buteo buteo* | 8 |
| 22 | Зимняк *Buteo lagopus* | 127 |
| 23 | Орлан-белохвост *Haliaetus albicilla* | 15 |
| 24 | Пустельга *Falco tinnunculus* | 3 |
| 25 | Полевой лунь *Circus cianeus* | 2 |
| 26 | Дербник *Falco columbarius* | 1 |
| 27 | Тетерев *Lyrurus tetrix* | 170 |
| 28 | Глухарь *Tetrao urogallus* | 16 |
| 29 | Рябчик *Tetrastes bonasia* | 14 |
| 30 | Серая куропатка *Perdix perdix* | 388 |
| 31 | Камышница *Gallinula chloropus* | 8 |
| 32 | Лысуха *Fulica atra* | 6229 |
| 33 | Пастушок *Rallus aquaticus* | 3 |
| 34 | Озерная чайка *Larus ridibundus* | 46 |
| 35 | Сизая чайка *Larus canus* | 169 |
| 36 | Сизый голубь *Columba livia* | 11670 |
| 37 | Кольчатая горлица *Streptopelia decaocto* | 60 |
| 38 | Клинтух *Columba oenas* | 1 |
| 39 | Ушастая сова *Asio otus* | 12 |
| 40 | Серая неясыть *Strix aluco* | 9 |
| 41 | Обыкновенный зимородок *Alcedo atthis* | 30 |
| 42 | Зеленый дятел *Picus viridis* | 29 |
| 43 | Желна *Dryocopus martius* | 53 |
| 44 | Пестрый дятел *Dendrocopos major* | 158 |
| 45 | Средний дятел *Dendrocopos medius* | 35 |
| 46 | Белоспинный дятел *Dendrocopos leucotos* | 13 |
| 47 | Малый дятел *Dendrocpos minor* | 98 |
| 48 | Сирийский дятел *Dendrocopos syriacus* | 7 |
| 49 | Седой дятел *Picus canus* | 13 |
| 50 | Хохлатый жаворонок *Galerida cristata* | 50 |
| 51 | Полевой жаворонок *Alauda arvensis* | 2 |
| 52 | Свиристель *Bombycilla garrulus* | 3348 |
| 53 | Серый сорокопут *Lanius excubitor* | 14 |
| 54 | Скворец *Sturnus vulgaris* | 207 |
| 55 | Сойка *Garrulus glandarius* | 248 |
| 56 | Сорока *Pica pica* | 564 |
| 57 | Кедровка *Nucifraga caryocatactes* | 3 |
| 58 | **Галка *Corvus monedula*** | 4585 |
| 59 | Грач *Corvus frugilegus* | 764 |
| 60 | Серая ворона *Corvus cornix* | 529 |
| 61 | Ворон *Corvus corax* | 209 |
| 62 | Крапивник *Troglodytes troglodytes* | 23 |
| 63 | Желтоголовый королек *Regulus regulus* | 151 |
| 64 | Рябинник *Turdus pilaris* | 1277 |
| 65 | Черный дрозд *Turdus merula* | 13 |
| 66 | Длиннохвостая синица *Aegithalos caudatus* | 209 |
| 67 | Черноголовая гаичка *Parus palustris* | 209 |
| 68 | Буроголовая гаичка *Parus montanus* | 89 |
| 69 | Хохлатая синица *Parus cristatus* | 78 |
| 70 | Обыкновенная лазоревка *Parus caeruleus* | 139 |
| 71 | Белая лазоревка *Parus cyanus* | 8 |
| 72 | Большая синица *Parus major* | 1779 |
| 73 | Московка *Parus ater* | 18 |
| 74 | Обыкновенный поползень *Sitta europaea* | 75 |
| 75 | Обыкновенная пищуха *Certhia familiaris* | 50 |
| 76 | **Домовый воробей *Passer domesticus*** | 2007 |
| 77 | Полевой воробей *Passer montanus* | 1535 |
| 78 | Обыкновенная зеленушка *Chloris chloris* | 331 |
| 79 | Обыкновенная чечетка *Carduelis flammea* | 240 |
| 80 | Чиж *Spinus spinus* | 1082 |
| 81 | Черноголовый щегол *Acanthis cannabina* | 373 |
| 82 | Обыкновенный снегирь *Pyrrhula pyrrhula* | 661 |
| 83 | Обыкновенный дубонос *Coccothraustes coccothraustes* | 5 |
| 84 | Обыкновенная овсянка *Emberiza citrinella* | 583 |
| 85 | Тростниковая овсянка *Emberiza* schoeniclus | 23 |
| 86 | Пуночка *Plectrophenax nivalis* | 6 |
| 87 | Коноплянка *Acanthis cannabina* | 58 |
| 88 | Деряба *Turdus viscivorus* | 45 |
| 89 | Зяблик *Fringilla coelebs* | 17 |
| 90 | Усатая синица *Panurus biarmicus* | 16 |
| 91 | Вьюрок *Fringilla montifringilla* | 10 |
| 92 | Клест-еловик *Loxia curvirostra* | 4 |
| 93 | Зарянка *Erithacus rubecula* | 3 |
| | ***ВСЕГО*** | 38670 |

# ЗИМНИЕ УЧЕТЫ - 2007

Подведены итоги зимних учетов птиц-2007 в Беларуси. Аномально теплая зима сказалась и на зимующих птицах. Некоторые перелетные виды остались зимовать в стране, другие птицы в январе неожиданно стали строить гнезда... Посчитать птиц в нынешнем году было значительно сложнее. Отсутствие льда на водоемах дало им возможность рассредоточиться на большой территории. Многие мелкие виды птиц также концентрируются в определенных кормных местах или тяготеют к жилью человека.

В зимних учетах птиц приняло участие 527 человек. В офис поступило 149 анкет. Всего на территории страны учтено 38 670 птиц, которые относятся к 94 видам. Наиболее многочисленными видами по данным наблюдений стали: кряква, лысуха, галка. В пятерке лидеров также наш зимний гость - свиристель, и ближайший сосед - домовый воробей.

"На Брестчине в нынешнем году на зимовку остались зяблики, вьюрки. Мы отметили 15 лутков. Самой интересной стала регистрация клинтуха", - сообщает председатель Западно-Полеского регионального отделения АПБ Андрей Абрамчук. По паре белых аистов осталось зимовать в Минском и Брестском районах. В Минском районе этому благоприятствовали такие факторы, как длительное отсутствие снежного покрова и наличие корма, который птицы находили на свалке пищевых отходов. Полевого луня в Малоритском районе отметил Сергей Абрамчук. Дербника в окрестностях д. Покалюбичи наблюдала Зинаида Горошко (Гомельский район). Пустельгу отметили в Мачулищах местные юннаты.

Бёдуотчерами из Кобрина (Д.Карпович, С.Остапук, Р.Шкабара, А.Яковлев) на озере Белом отмечен факт зимовки 3 больших белых цапель. В Щучинском районе члены клуба АПБ "Крылатый дозор" под руководством Р.П.Сыч отметили 6 пуночек. "В начале января у меня на балконе девятиэтажного дома сизые голуби построили гнездо и вывели птенца", - сообщила в АПБ жительница Минска Мария Орел. Для Западной Европы это обычное явление. Для нас же - любопытная новость. "Несколько гнезд сизого голубя мы обнаружили 3 января в Бресте, во время установки гнездовых домиков для пустельги", - поделился информацией директор АПБ Виктор Фенчук. Уже после учетов поступила информация о зимующих горных чечетках в Каменецком районе (А.Абрамчук) и рогатых жаворонках в окрестностях Гомеля (З.Горошко) и в Лунинецком районе (В.Домбровский, П.Пинчук).

13-14 января прошла акция "Птицы на кормушке". Кроме подкормки птиц, ставилась цель учета пернатых на подкормочных площадках. В акции приняло участие 70 человек. В основном это юные натуралисты из клубов АПБ "Крылатый дозор" и экологических кружков. Не остались в стороне и орнитологи. Поступило 29 отчетов о наблюдениях птиц. Всего на кормушках учтено 1082 птицы 24 видов. Наиболее массовые виды: большая синица - 295 особей, домовый воробей - 240, полевой воробей - 136. Птичью кормушку посещали и хищники. Самку ястреба-перепелятника, которая неудачно напала на птиц, сидевших на деревце возле кормушки, наблюдали Владимир, Елена и Дмитрий Винчевские в Гродно. В Дембровской школе (Щучинский район) члены клуба "Крылатый дозор" сумели привлечь на кормушку зеленого дятла. В Жодино Олег Авхимович отметил на кормушке двух скворцов. Но не всегда птицы охотно посещали кормушки. "В связи с аномально теплой зимой посещаемость кормушки птицами очень низкая. Следует добавить, что в дни наблюдений птиц на кормушке (13-14 января) в Кобрине отмечено много дождевых червей - выползков, т.е. появился дополнительный источник корма. Поэтому в нашем регионе кормушки были мало привлекательны для птиц", - сообщает в отчете Олег Кальченко. Мы выражаем благодарность всем участникам учетов за их энтузиазм и стремление побольше узнать о наших птицах и их проблемах.

Руслан Шайкин

## ГРОДЗЕНСКАЯ СУСТРЭЧА

Чарговая канферэнцыя Гродзенскага абласнога аддзялення АПБ у гэты раз была прысвечана 125-годдзю з дня народзінаў нашага земляка з Лідчыны, акадэміка Тадэвуша Іваноўскага. 17 лютага 2007 года ў актавай залі гімназіі №1 імя Я.Карскага сабраліся больш за 70 аматараў роднай прыроды, каб разам узгадаць і адзначыць найбольш важныя падзеі з жыцця сябраў АПБ з Гарадзеншчыны. На жаль, па прычынах, якія не залежалі ад арганізатараў, прыйшлося замяніць 4 з 8 прадугледжаных дакладаў, і спіс прадстаўленых насамрэч прэзентацый выглядаў наступным чынам: "Беларускія балоты" - к.б.н. Алег Созінаў; прэм'ера навукова-папулярнага фільма "Зачараваныя балоты" - рэжысёр, к.б.н. Ігар Бышнёў; "Поплаўны лунь - сельская гаспадарка і прырода" - Дамінік Крупіньскі (Польшча); "Арніталагічныя находкі, зробленыя ў Беларусі напрыканцы XX ст." - Андрэй Абрамчук; "З гісторыі стварэння нацыянальных паркаў у Беларусі" - Мікалай Чэркас; "Птушкі Смаргонскага краю" - Аляксандр Ясевіч; "Leighton Moss - найлепшы адукацыйны цэнтр RSPB" - Дзмітры Вінчэўскі; "Румлёва - гісторыя і прырода" - Віталь Гуменны. Як і заўсёды, найбольш працяглыя ўдзячныя воплескі прысутных сустрэў чарговы фільм Ігара Бышнёва. Астатнія прэзентацыі былі сустрэты ўдзельнікамі канферэнцыі таксама з увагай і цікаўнасьцю, хоць часам распавядалі не толькі пра птушак.

Пасля афіцыйнай справаздачы рады аддзялення і рэвізійнай камісіі за 2006 год пачалося ўзнагароджванне лаўрэатаў абласнога этапа конкурсу на лепшую выяўленчую работу "Кнігаўка - птушка 2006 году". Альбомы з рэпрадукцыямі малюнкаў Напалеона Орды, фільмы пра беларускую прыроду Ігара Бышнёва з подпісам аўтара і кампакт-дыскі найлепшых беларускіх рок-гуртоў - вось прызы, якія атрымалі найбольш таленавітыя юныя мастакі з Гарадзеншчыны. З напружанай увагай быў сустрэты конкурс па вызначэнню птушак Беларусі сярод падлеткаў, у якім перамог Раман Шкабара з Кобрына. На другім месцы - яго зямляк Вячаслаў Астапук, і толькі на трэцім - гарадзенец Уладзіслаў Гаўрусік. У аналагічным конкурсе для дарослых перамог Андрэй Абрамчук.

Усім зарэгістраваным удзельнікам былі раздадзены адмысловыя квіткі для галасавання за найлепшыя фотаздымкі на выставе "Нашы птушкі-2007", якая размяшчалася на другім паверсе недалёка ад актавай залі. Нечакана для ўсіх усе 3 прызавыя месцы па выніках тайнага галасавання дасталіся работам Мікалая (1-е і 2-е месца) і Віктара (3-е месца) Гулінскіх. . Былі падведзены і вынікі ў наступных абласных намінацыях: "За лепшы артыкул у абласным бюлетэні "Кабец" - перамог Віталь Гуменны з вершам пра арла-маркута; "За найбольш актыўны ўдзел у навуковых праектах АПБ" - перамог Дзмітры Якубовіч; "За найлепшую арганізацыю сустрэч сябраў АПБ" - перамагла Аляксандра Рыжая. А біноклі, прадстаўленыя партнёрам АПБ - шведскім арніталагічным таварыствам SOF - атрымалі адразу два найбольш актыўных клуба АПБ "Крылаты дазор": з Навадворскай СШ у Свіслацкім раёне - кіраўнік Марыя Панотчык, і з Дзембраўскай СШ Шчучынскага раёну - кіраўнік Рэгіна Сыч.

18 лютага юныя аматары назіранняў за птушкамі пад кіраўніцтвам ганаровага сябра АПБ Георгія Гулеўскага правялі ранішнія гадзіны ля месца ўпадзення Ласасянкі ў Нёман, дзе здолелі, між іншым, назіраць вялікіх савукоў, малую коўру, махнатаногага канюха і іншыя зімуючыя віды птушак.

Дзякуем усім, хто знайшоў час і магчымасць паўдзельнічаць у канферэнцыі нашага аддзялення. І да новых сустрэч у наступным годзе!

Дзмітры Вінчэўскі

## НАВІНЫ З НАВАГРУДЧЫНЫ

Ужо другі раз Дом-музей А.Міцкевіча, што ў Навагрудку, стаў месцам, якое гасцінна прымае ўсіх, хто цікавіцца светам птушак. На гэты раз 26 снежня мінулага года тут адбылася канферэнцыя Навагрудскага рэгіянальнага аддзялення АПБ. Для адкрыцця канферэнцыі слова было прапанавана госцю з Гродна, фотамастаку-анімалісту, ганароваму сябру АПБ Георгію Гулеўскаму. Яго здымкі, а таксама работы іншых гарадзенскіх фотамайстроў, улетку экспанаваліся ў музеі ў рамках фотавыставы "Птушкі вакол нас" і дазволілі навагрудчанам і гасцям горада пазнаёміцца з прыгажосцю нашых птушак.

Таксама прывітала прысутных і дырэктар Эколага-біялагічнага цэнтра г.Навагрудка О.В. Котава. Своеасаблівае музычнае прывітанне ўдзельнікам канферэнцыі - сябрам аддзялення, гурткоўцам і супрацоўнікам ЭБЦ, гасцям з Гродна і Мінска - прапанаваў бард Дзмітрый Мароз. У пачатку канферэнцыі мультымедыйную справаздачу дзейнасці аддзялення ў 2006 годзе прапанавала яго старшыня Аксана Казловіч. На канец 2006 г. аддзяленне налічвае 14 дарослых сябраў і 56 дзяцей і падлеткаў. Нягледзячы на маладосць, мы занялі пятае месца сярод дзесяці ўдзельнікаў у конкурсе на лепшае аддзяленне АПБ. Пасля лічбаў і прыкладаў дзейнасці сябраў аддзялення ў 2006 г., старшыня расказала аб асноўных накірунках дзейнасці на 2007 год.

Аб родзе Тызенгаузаў, складаным і цікавым жыццёвым шляху заснавальніка беларускай арніталогіі Канстанціна Тызенгауза на фоне гістарычных падзей распавёў старшыня Гродзенскага абласнога аддзялення АПБ Дзмітрый Вінчэўскі.

Пераможцы абласной навукова-практычнай канферэнцыі навуковых аб'яднанняў навучэнцаў біялагічнага профілю ў секцыі "Даследчыкі прыроды" (Кацярына Флейта, гурткоўка з ЭБЦ) і "Юныя эколагі" (Арцём Богдан, Валеўская СШ) у сваіх выступленнях расказалі аб сваіх даследаваннях па выяўленню раслін, занесеных у Чырвоную кнігу РБ, а таксама аб выніках работы па методыцы "Дзікі квадрат" на тэрыторыі Дзяржаўнага ландшафтнага заказніка "Свіцязянскі". Супрацоўнік па кампаніях АПБ Руслан Шайкін пазнаёміў прысутных з вынікамі нацыянальнай кампаніі "Кнігаўка - птушка 2006 года", а таксама з асаблівасцямі біялогіі і паводзін салаў'я, які выбраны птушкай 2007 года.

Пад час канферэнцыі для падлеткаў быў праведзены конкурс на веданне птушак. Госці змаглі пазнаёміцца з выдавецкай дзейнасцю арганізацыі і стаць сябрамі АПБ. Можна было зрабіць ахвяраванне на выраб памятнай шыльды Канстанціну Тызенгаузу, якую АПБ плануе ўсталяваць на будынку парафіяльнага касцёла ў Жалудку, дзе арнітолаг нарадзіўся 220 год таму. Прадстаўленая Гродзенскім абласным аддзяленнем выстава дзіцячых малюнкаў "Кнігаўка - птушка 2006 года" вельмі зацікавіла прысутных.

Напрыканцы сустрэчы былі ўзнагароджаны пераможцы раённага этапа конкурсу на лепшую выяўленчую работу "Кнігаўка - птушка 2006 года", а таксама сябры клубаў "Крылаты дазор", якія працавалі па методыцы "Дзікі квадрат". Вызначаны лепшы клуб аддзялення - ім стаў "Крылаты дазор" вучняў Налібоцкай БШ.

Дзякуем усім, хто дапамог у падрыхтоўцы і правядзенні канферэнцыі, і асабліва - Мікалаю Гайбе (дырэктару Дома-музея Адама Міцкевіча).

Наталля Белуш,
сябра АПБ, Навагрудак

# УМОВЫ КОНКУРСУ "НА ЛЕПШАЕ МЯСЦОВАЕ АДДЗЯЛЕННЕ (ГРУПУ) АПБ"-2007

Дзейнасць аддзяленняў будзе ацэньвацца па максімальным дасягнутым выніку, г.зн. максімальны вынік якога-небудзь аддзялення ў гэтай дзейнасці будзе прымацца за 10 балаў, а дзейнасць іншых будзе ацэньвацца адносна лепшага паказчыка. (Прыклад: лепшы паказчык 100=10балаў, іншы паказчык 25=2,5 балаў).

**Пералік дзейнасці, якая будзе ацэньвацца:**

Колькасць удзельнікаў (з тэрыторыі на якую распаўсюджваеца дзейнасць аддзялення) у нацыянальных акцыях і кампаніях (для пунктаў 1-5):

1. Птушка года (конкурсы на выяўленчую работу, казку і г.д.)
2. Восеньскія дні назіранняў за птушкамі
3. Зімовыя ўлікі
4. "Жывая вясна"
5. Чэмпіянат па спартыўнай арніталогіі
6. Колькасць зарэгістраваных удзельнікаў у канферэнцыі аддзялення
7. Колькасць удзельнікаў (з тэрыторыі аддзялення) ва ўласных акцыях
8. Колькасць выпускаў і аб'ём уласных выданняў (акрамя абласных бюлетэняў). (Могуць быць выдадзеныя супольна з іншымі арганізацыямі або аддзяленнямі).
9. Колькасць навуковых публікацый (артыкулаў), у якіх ёсць упамінанне рэгіянальнага аддзялення
10. Колькасць старых сябраў (% ад мінулага году)
11. Колькасць новых сябраў (сума узносаў ад іх)
12. Колькасць кандыдатаў у сябры і сябраў "Клуба 200"
13. Колькасць клубаў "Крылаты дазор"
14. Колькасць дзяцей у клубах "Крылаты дазор"
15. Колькасьць пераможцаў і прызёраў у конкурсах АПБ (1, 2, 3-е – месца, адпаведна 3, 2 і 1 балы за кожнае месца)
16. Колькасць артыкулаў у інфабюлетэні АПБ, "Птушкі і мы" і "Размаху крылаў", якія напісаны сябрамі з аддзялення
17. Колькасць рэгіянальных акцый і міні-праектаў, якія ажыццявіла аддзяленне
18. Колькасць артыкулаў сябраў аддзялення ў абласных бюлетэнях
19. Колькасць артыкулаў, выступленняў, упамінанняў у СМІ і інтэрнэце (першых)
20. Колькасць праведзеных рэспубліканскіх і рэгіянальных семінараў АПБ
21. Дапамога іншым аддзяленням (колькі чалавек дапамагала ў арганізацыі і правядзенні мерапрыемстваў у інш. рэгіёнах)
22. Колькасць выкарыстаных унутраных рэсурсаў
23. Колькасць рэсурсаў са знешніх крыніц, якія атрымалася выкарыстаць аддзяленню.

Акрамя таго, вызначаюцца лепшыя аддзяленні ў намінацыях:

1. **Назіранні за птушкамі.** Улічваецца колькасць удзельнікаў у: зімовых уліках; "Жывой вясне", восеньскіх назіраннях; чэмпіянаце па спартыўнай арніталогіі.
2. **Колькасць пераможцаў у конкурсах АПБ.** Улічваюцца толькі пераможцы, але ва ўсіх конкурсах АПБ.
3. **Уласная актыўнасць.** Улічваецца колькасць уласных акцый, колькасць удзельнікаў у іх.
4. **Уласныя публікацыі.** Колькасць уласных папулярных і навуковых публікацый. Колькасць артыкулаў, выступленняў, упамінанняў у СМІ і інтэрнеце (першых).

Канчатковыя вынікі падаюцца ў офіс не пазней за 1 тыдзень да з'езду, прамежкавыя – за паўгода – да 23 чэрвеня. У конкурсе могуць удзельнічаць і незарэгістраваныя мясцовыя группы сябраў АПБ з загадзя акрэсленай тэрытоыры.

# Трэцяя заалагічная канферэнцыя навучэнцаў

16 лютага 2007 г. у гімназіі №1 г. Гродна прайшла трэцяя Гродзенская абласная адкрытая заалагічная канферэнцыя навучэнцаў. На гэты раз яна была прысвечана 200-годдзю выдання праф. Станіславам Баніфацыем Юндзілам першых падручнікаў па заалогіі для школ Віленскай навучальнай акругі. З прывітальнымі словамі выступілі: дырэктар гімназіі Валянціна Макарава, намеснік дырэктара гімназіі Віталь Гуменны, загадчыца аддзела "Экалогіі і інтэлектуальнага развіцця" Гродзенскага абласнога Палаца творчасці дзяцей і моладзі Валянціна Шкулепа. Пра жыццёвы шлях С.Б.Юндзіла (нашага земляка з сучаснай Воранаўшчыны) і пра яго падручнікі распавялі на пачатку канферэнцыі Дзмітры Вінчэўскі і Віталь Гуменны.

Пасля на канферэнцыі былі прадстаўлены працы маладых заолагаў з усіх абласцей Беларусі, акрамя Магілёўскай. Прагучала 12 дакладаў у двюх секцыях: "Фауністыка" і "Біялогія і экалогія жывёл". І хаця пытанні і заўвагі маладым даследчыкам задавалі ўсе прысутныя, найбольш зацікаўленымі і глыбокімі былі шматлікія парады і заўвагі сябраў журы: к.б.н. Ігара Бышнёва (дырэктара па сувязях з грамадскасцю АПБ), Аляксандры Рыжай (старэйшага выкладчыка кафедры "Заалогіі і фізіялогіі чалавека і жывёл" Гродзенскага дзяржуніверсітэта імя Я.Купалы), к.б.н. Вольгі Янчурэвіч (выкладчыка кафедры "Заалогіі і фізіялогіі чалавека і жывёл" Гродзенскага дзяржуніверсітэта імя Я.Купалы) і Валянціны Шкулепа.

Пасля перапынку адбылося знаёмства юных удзельнікаў канферэнцыі, якое правяла псіхолаг гімназіі Алена Вінчэўская. У гэты ж час к.б.н. Алег Созінаў правёў майстар-клас для навуковых кіраўнікоў. Уручэннем адмысловых дыпломаў усім удзельнікам канферэнцыі і навукова-папулярных кніг па заалогіі аўтарам найбольш цікавых прац (прызы былі прадстаўлены Гродзенскім абласным аддзяленнем АПБ) канферэнцыя закончыла сваю работу. Па яе выніках, як і ў папярэдніх гады, будзе выдадзены адмысловы зборнік з тэкстамі дакладаў і рэкамендацыямі для навуковых кіраўнікоў. Арганізатарамі канферэнцыі выступілі: Гродзенскі абласны камітэт прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, Гродзенскі абласны Палац творчасці дзяцей і моладзі, Гродзенскае абласное аддзяленне ГА "Ахова птушак Бацькаўшчыны" і гімназія №1 імя акадэміка Я.Карскага г.Гродна. Да новых сустрэч праз год!

# САЛАВЕЙ - ПТУШКА 2007 ГОДА

Нацыянальная кампанія "Птушка года" праводзіцца з 2000 года грамадскай арганізацыяй "Ахова птушак Бацькаўшчыны". Асноўная мэта кампаніі - прыцягненне ўвагі грамадскасці да праблем дзікіх птушак. У розныя гады птушкамі года сталі белы бусел, белая пліска, авяльга, дамовы верабей, гарадская ластаўка, барадатая кугакаўка, кнігаўка. У рамках кампаніі праводзяцца конкурсы, акцыі і прыродаахоўныя мерапрыемствы.

Птушкай 2007 года абвешчаны ўсходні салавей. Крытэрыямі выбару сталі: папулярнасць і вядомасць птушкі сярод насельніцтва, паўсюдная распаўсюджанасць -нават у вялікіх гарадах яшчэ ёсць месцы, дзе жывуць салаўі. Мала яшчэ якая птушка заслужыла столькі ўвагі, прызнання і павагі чалавека, як салавей. Але і для гэтай птушкі чалавек стварыў нямала перашкод. Частае выкошванне травы ў населеных пунктах, паўсюднае стварэнне газонаў, высечка кустоў, татальнае прыбіранне апаўшага лісця не паляпшаюць знешняе асяроддзе, а знішчаюць месцы пражывання птушак, якія будуюць гнёзды на зямлі ці кустах. У гарадах часам не застаецца нават маленькіх месцаў, дзе птушкі адчувалі б сябе ўтульна. Наша мэта ў 2007-м паспрабаваць стварыць такі свет, дзе ўтульна будзе і людзям, і птушкам.

10 фактаў пра салаўя:

1. Зімуе ў Афрыцы.
2. З месцаў зімоўкі прылятае звычайна ў пачатку мая і адразу пачынае спяваць.
3. Знешне непрыкметная птушка, мае бурую афарбоўку з рудаватым хвастом, самка падобная да самца.
4. Спявае толькі самец, часцей на змярканні і ноччу: "віць-віць-віць, цьох-цьох-цьох, а-я-я, ох-ох-ох!".
5. Салавей - адзіная птушка, якая спыняе спевы адразу, як толькі ў гнёздах з'явяцца птушаняты.
6. Гняздо будуе на зямлі звычайна недалёка ад вады пад кустамі, выкарыстоўваючы сухое лісце.
7. Харчуецца насякомымі і ягадамі, але птушанят выкормлівае насякомымі і іншымі дробнымі бесхрыбетнымі.
8. Колькасць у нашай краіне складае каля 160 000 пар.
9. Бліжэйшы родзіч салаўя - кралька.
10. Шмат гнёздаў салаўёў гіне ў выніку гаспадарчай дзейнасці чалавека, пры выкошванні расліннасці ў маі-чэрвені, ад наземных драпежнікаў - катоў, вожыкаў, высечка кустоў знішчая гнездавое асяроддзе салаўя.

### Конкурс казкі пра салаўя

Казка павінна даваць адказ на наступныя пытанні:

- Чаму салавей спявае на змярканні і ноччу?
- Чаму ў салаўя прыгожая песня і сціплы знешні выгляд?
- Чаму салавей гняздуецца на зямлі?
- Чаму салавей жыве ў лясах і садах каля рэчак і азёр?
- Чаму салавей адлятае на зіму за мора?

Вы можаце прапанаваць сваю арыгінальную тэму, выкарыстоўваючы асаблівасці птушкі. Казка можа быць напісана на беларускай, рускай ці англійскай мовах. Дасылаць працы лепш у надрукаваным ці электронным выглядзе. У выпадку падачы рукапісных тэкстаў почырк павінен быць акуратным і разборлівым.

Усе работы павінны адпавядаць агульным патрабаванням да конкурсных работ. Казкі трэба дасылаць на адрас АПБ: г. Мінск, а/с 306, 220050

Тэрмін падачы работ: да 15 кастрычніка 2007 года.

Узрост удзельнікаў: не абмежаваны.

### "Салавей у творах юных мастакоў"

Прымаюцца выявы салаўя (малюнак, аплікацыя, вышыўка, скульптура). Работа павінна мець аўтарскую назву. Не прымаюцца малюнкі, зробленыя простым алоўкам, а таксама працы з пластыліну. Усе работы павінны суправаджацца інфармацыяй адпаведна агульным патрабаванням да конкурсных работ.

Конкурсныя малюнкі дасылайце ў рэгіянальныя аддзяленні ГА "Ахова птушак Бацькаўшчыны" (адрасы пазначаны ніжэй). Тэрмін падачы работ: **да 31 мая 2007 года.** Узрост удзельнікаў: **да 17 год.**

Мастацкія работы неабходна дасылаць рэгіянальным каардынатарам:

**Брэсцкая вобласць:** Абрамчук А.В., а/с 38, Брэст, 224039

**Магілёўская вобласць:** Сідарэнка А.В., а/с 001, г. Магілёў, 212017

**Гродзенская вобласць:** Гуменны В.С., Гімназія №1, пр-т Я.Купалы, д. 82, г. Гродна, 230010

**Гомельская вобласць:** Зеніна І.М., вул. Лясная, д.7, кв.1, г. Тураў, Жыткавіцкі р-н, Гомельская вобл., 247980

**Віцебская вобласць:** Сінкевіч І.В., Цэнтр пазашкольнай работы, вул. Ленінская, 22, г.п. Шуміліна, Віцебская вобл., 211260

**Мінская вобласць:** АПБ, г. Мінск, а/с 306, 220050

Агульныя патрабаванні да конкурсных работ. На кожнай рабоце павінны быць пазначаны імя, імя па бацьку, прозвішча, узрост, дакладны адрас і тэлефон аўтара, назва гуртка, адрас, а таксама імя, прозвішча кіраўніка гуртка і яго тэлефон, калі аўтар з'яўляецца сябрам якога-небудзь мастацкага гуртка. Без выканання гэтых патрабаванняў работы прымацца не будуць!

Конкурсныя работы не вяртаюцца. Яны могуць быць выкарыстаны для выставаў і публікацый у выданнях АПБ, а таксама ў газетах і часопісах з захаваннем аўтарства.

**Узнагароджанне пераможцаў.** Лаўрэатам конкурсаў будуць уручаны дыпломы, заахвочвальныя прызы і сувеніры. Усе ўдзельнікі атрымаюць лісты з падзякай і налепку з салаўём.

### Акцыя "Першая песня салаўя"

Мэтай акцыі з'яўляецца выяўленне першых салаўёў і назіранне за прылётам птушак у розных абласцях нашай краіны. Калі ў вашай мясцовасці заспявае першы салавей, неабходна адразу патэлефанаваць ці напісаць, дзе, калі і кім была зарэгістравана першая песня салаўя.

### Конкурс "Салаўіны гарадок"

Мэтай акцыі з'яўляецца выяўленне населеных пунктаў, у якіх пражывае найбольшая колькасць салаўёў. Вялікая колькасць гэтых птушак сведчыць аб тым, што ў населеным пункце шмат зялёных насаджэнняў і спрыяльнае экалагічнае асяроддзе. Па выніках акцыі адміністрацыі населеных пунктаў, дзе будзе зарэгістравана большая колькасць салаўёў, атрымаюць спецыяльны сертыфікат, а населены пункт - статус Салаўінага гарадка. Для ўдзелу ў конкурсе неабходна ў адзін з майскіх вечароў падлічыць колькасць салаўёў, якія спяваюць у вашым горадзе ці вёсцы. Колькасць спяваючых самцоў, дату падлікаў, прозвішча, імя, адрас, тэлефон паведаміць у АПБ да 31 мая.

### Акцыя "Салаўіныя ночы"

Мэтамі акцыі з'яўляецца знаёмства людзей з гэтай цудоўнай птушкай і яе песняй. Салаўіныя вечары праводзяцца ў зялёнай зоне населеных пунктаў, дзе пяюць салаўі. Адбудуцца ўвечары 19-20 мая. У Мінску акцыя праводзіцца офісам АПБ, у рэгіёнах - мясцовымі аддзяленнямі АПБ. Разам з гэтай акцыяй АПБ правядзе Нацыянальны ўлік салаўёў. У адзін з майскіх вечароў неабходна выйсці ў бліжэйшы лясны масіў, пойму ракі, парк ці сквер населенага пункта і падлічыць усіх салаўёў, якія сустрэнуцца на шляху. Колькасць спяваючых самцоў, працягласць маршрута ці плошчу парка, сквера, дату падлікаў, прозвішча, імя, адрас, тэлефон паведаміць у АПБ да 31 мая.

## ПОЛОЖЕНИЕ О ФОТОКОНКУРСЕ АПБ "ПТИЦА В ОБЪЕКТИВЕ-2007"

Общественная организация "Ахова птушак Бацькаўшчыны" (АПБ) объявляет национальный фотоконкурс "Птица в объективе-2007", который проводится с целью популяризации природы Беларуси средствами фотоискусства.

Работы будут оцениваться в следующих номинациях:

1. **Птицы в природе.**
2. **Охрана птиц.**
3. **Юниорский кадр (авторы до 16 лет).**
4. **Пейзаж с птицами.**
5. **В объективе - орнитологи.**

К участию в конкурсе приглашаются профессиональные фотографы и фотолюбители без возрастного ограничения.

Принимаются отдельные фотоработы и серии снимков, не участвовавшие в конкурсе ранее. На конкурс принимаются цветные и черно-белые фотографии форматом не менее 15х20 см, широкие и узкие слайды, электронные файлы в форматах tif, jpg, bmp с разрешением не менее 200 пикселей и реальными размерами 15х20 см.

На обратной стороне снимков указывается наименование номинации, название работы, ф.и.о, адрес автора, указание даты, места и условий съемки (отдельно автор должен вложить список работ). Каждый участник может представить не более 3 отдельных работ в каждой из определенных номинаций. Тематическая серия, состоящая из 5 и менее снимков, считается одной работой.

Победители конкурса награждаются дипломами АПБ и призами. Лучшие работы будут опубликованы в изданиях АПБ.

На конкурс не принимаются снимки чучел, с изображениями раненых и больных птиц (принимаются в номинации "охрана птиц"), птиц в неволе, на которых видно гнездо или яйца птиц. Не принимаются фотомонтажи и снимки, обработанные с помощью графических редакторов за исключением первичной ретуши. Фотоработы членов жюри могут участвовать (публиковаться в изданиях АПБ, показываться на выставках) вне конкурса.

Работы на фотоконкурс "Птица в объективе-2007" принимаются до **1 ноября 2007 года** по адресу: а/я 306, Минск, 220050 с пометкой "Фотоконкурс"
или на адрес электронной почты: **apb_pr@tut.by**

Телефон для справок: **017-263-06-13.**

Организаторы фотоконкурса оставляют за собой право некоммерческого использования фотографий с обязательным упоминанием автора. По итогам конкурса в Минске будет организована выставка работ. В случае коммерческого использования снимков согласие автора обязательно.

## АТЛАС РЭДКІХ ПТУШАК БРЭСЦКАЙ ВОБЛАСЦІ

Шаноўныя калегі!

Па ініцыятыве Заходне-Палескага рэгіяналь-нага аддзялення АПБ пачынаецца праца над стварэннем "Атласа рэдкіх птушак Брэсцкай вобласці".

Запрашаем да ўдзелу ўсіх жадаючых!

Па ўсіх пытаннях звяртайцеся да СТАРШЫНІ АДДЗЯЛЕННЯ Андрэя Абрамчука

на кантактныя тэлефоны: **725-32-16, 355-32-16,**
або праз электронную пошту: **apb_brest@mail.ru**

## ВЯРТЛЯВАЯ ЧАРОТАЎКА Ў СЕНЕГАЛЕ

*Працяг, пачатак на стар.1*

Каманда вучоных прааналізавала радыёізатопны састаў пер'яў вяртлявых чаротавак, якія былі адлоўлены на месцах гнездавання ў Еўропе, каб зменшыць геаграфію пошукаў зімовак. Атрыманыя дадзеныя былі параўнаныя з вядомымі ўжо мапамі распаўсюджвання ізатопаў у Заходняй Афрыцы і з радыеізатопнымі параметрамі пер'яў афрыканскіх аседлых відаў птушак. Гэтыя дадзеныя паказвалі, што вяртлявая чаротаўка зімуе на тэрыторыях, якія ляжаць адразу на поўдзень ад Сахары. Аналіз нешматлікіх назіранняў чаротавак у Афрыцы разам з кампутарным мадэляваннем патэнцыяльна падыходзячых па кліматычных умовах месцаў прывёў даследчыкаў на тэрыторыі ўздоўж ракі Сенегал.

Як адзначыў Віктар Фянчук, дырэктар грамадскай арганізацыі "Ахова птушак Бацькаўшчыны" (АПБ) і адзін з удзельнікаў экспедыцыі, "значнасць адкрыцця месцаў зімоўкі вяртлявай чаротаўкі цяжка пераацаніць. АПБ вядзе актыўную працу па захаванні месцаў гнездавання вяртлявай чаротаўкі ў Беларусі, бо на нашых балотах жыве каля паловы папуляцыі гэтага рэдкага віда. Падрыхтаваны планы кіравання буйнейшымі нізіннымі балотамі - месцамі гнездавання віду, выкананы працы па аднаўленні натуральнага гідралагічнага рэжыму. Але ўся гэтая праца можа зрабіцца марнай без адпаведнай аховы месцаў зімовак".

Удзельнікі экспедыцыі адзначылі, што воднабалотныя ўгоддзі Заходняй Афрыкі зараз актыўна трансфармуюцца - ідуць працы па асушэнні азёр і балот для вырошчвання рысу, аднаго з асноўных прадуктаў харчавання мясцовага насельніцтва. Таму толькі хуткі пошук астатніх асноўных месцаў зімоўкі вяртлявай чаротаўкі зможа гарантавана захаваць іх у натуральным стане.

Выдатна, што значная частка гэтых птушак зімуе на ўжо ахоўваемай тэрыторыі - у Нацыянальным парку Джудж. Па папярэдніх разліках, у гэтым Нацыянальным парку можа зімаваць да трэцяй часткі ўсёй сусветнай папуляцыі вяртлявай чаротаўкі. Але і гэтае балота, якое знаходзіцца на паўднёвым ускрайку Сахары, знаходзіцца пад пагрозай знішчэння праз пашырэнне пустынных тэрыторый на поўдзень з-за зменаў клімату.

Вяртлявая чаротаўка драматычна зменшыла сваю колькасць за апошняе стагоддзе, і зараз уся глабальная папуляцыя ацэньваецца ў 15 000 пар - галоўным чынам з-за асушэння нізінных балот - месцаў яе гнездавання. Па ацэнках навукоўцаў, за апошнія 100 год плошча іх зменшылася на 95%. У Беларусі гняздуе прыкладна 60% глабальнай папуляцыі віду.

Поспех экспедыцыі натхняе на далейшую працу. Па матэрыялах батанічных даследаванняў месцаў зімоўкі запланавана правядзенне аналізу спадарожнікавых здымкаў Заходняй Афрыкі. Гэта дапаможа знайсці іншыя патэнцыйныя месцы зімоўкі вяртлявых чаротавак у Паўднёвай Маўрытаніі і іншых краінах Заходняй Афрыкі, з мэтаю забяспечыць іх надзейную ахову.

## НОВЫЙ САЙТ АПБ - НОВЫЕ ВОЗМОЖНОСТИ

**В конце прошлого года заработал новый сайт АПБ - www.ptushki.org**

На нем вы сможете прочитать все свежие новости организации, обновляющиеся практически ежедневно. Это очень важно, так как до недавнего времени мы использовали для рассылки новостей информационный бюллетень, издающийся только четыре раза в год, и не всегда новости доходили оперативно, как нам бы хотелось. Активно работает форум. Обсуждаются самые разные вопросы, начиная с критики АПБ и заканчивая советами и объявлениями. Зарегистрированным на форуме посетителям можно предлагать свои темы.

Если вам есть что обсудить, пожалуйста, заходите на наш форум. Подготовлены материалы по отделениям АПБ, по офису и структуре организации, клубам, некоторым акциям. Есть галерея фотографий, куда вы можете присылать и свои. Размещена информация о Территориях, Важных для Птиц (ТВП). Некоторые разделы еще не заполнены, материалы находятся в разработке. Всех друзей птиц приглашаем посетить новый сайт.

## СРЕДИ ПТИЦ И БОЛОТ

6 февраля 2007 года в Витебском областном краеведческом музее открылась выставка цветной фотографии "Среди птиц и болот ". Выставка приурочена к 60-летию со дня рождения автора фотографий - председателя общественной организации "Ахова птушак Бацькаўшчыны", кандидата биологических наук, орнитолога Владимира Ивановского.

Выставка посвящена уникальным болотным урочищам Витебщины и редким птицам, обитающим здесь. Цель выставки - способствовать воспитанию подрастающего поколения в духе бережного отношения к родной природе, гордости за удивительный животный и растительный мир Беларуси и сохранению биологического разнообразия для будущих поколений.

***Сябрам АПБ!***
*Нагадваем, што памер* ***гадавога*** *ўзносу наступны:*
*асабісты - 10000 рублёў;*
*сямейны - 10100 рублёў;*
*ільготны (студэнты і інш.) - 7000 рублёў;*
*сябра клуба “Рэдкая птушка” - 20000 рублёў;*
*сябра клуба “Крылаты дазор” - 800 рублёў;*
*кіраўнік клуба “Крылаты дазор” - 7100 рублёў;*
*сябра клуба 200 - 2000 рублёў.*
*Дадатковы неабавязковы ўзнос:*
*навуковы (+ навуковы журнал SUBBUTEO) - 2500 рублёў.*
*Кожны сябра АПБ атрымлівае за год сяброўскую картку, налепку, плакат, інфармацыйны бюлетэнь (чатыры выпускі), 2 чвсопіса “Птушкі і мы”.*

**Увага!**
Узносы можна пералічыць паштовым пераводам у любым паштовым аддзяленні на наш банкаўскі рахунак:
**Грамадскай арганізацыі « Ахова птушак Беларусі» Р/р 301 501 355 0019 ААТ “Белпрамбудбанк”, філіял па Мінскай вобласці код 331. УНП 101546170, АКПА 37527794.**

## ЗНАЧКІ ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

У 2007 годзе дзеці з клубаў "Крылаты дазор", калі яны з'яўляюца яго сябрамі другі або трэці год, атрымаюць новыя значкі ад АПБ. Значкі маюць выяву розных жывёл - вавёркі, савы, вожыка і божай кароўкі. Дзеці, якія ўступяць у клуб у 2007 годзе, атрымаюць значкі з вясёлым грачанём Рукі.

## ГАЛОЎНЫ КОНКУРС АПБ "ЛЕПШЫ СЯБРА-2007”

Для ўдзельнікаў гэтага конкурсу ў сяброўскай анкеце ёсць графа "Хто прапанаваў вам стаць сябрам АПБ". Кожны новы сябра АПБ, які запіша ў гэтую графу прозвішча чалавека, які параіў яму далучыцца да нашай арганізацыі, дасць апошняму дадатковы шанц на атрыманне прыза. Будзе ўлічвацца таксама актыўнасць нашых сябраў па збору ўзносаў за бягучы год. Удзельнічайце і перамагайце - сабраныя ўзносы набліжаюць вас да каштоўнага прыза!

## КОНКУРС: ЮНЫЙ ОРНИТОЛОГ ГОДА-2007

К участию в конкурсе, как и в предыдущие годы, приглашается молодежь до 17 лет. Свой полевой дневник за сезон присылайте заказной бандеролью на адрес АПБ до **1 октября 2007 года.**

Все дневники, присланные для участия в конкурсе, будут возвращены их авторам. Просьба присылать полевые дневники, а не отчеты.

Победителям будут вручены ценные призы. Интересных вам наблюдений и успехов в поле!



Внимание! Статьи и фотографии для публикаций в бюллетене №2 (29) за 2007 год присылайте на адрес АПБ или по e-mail: byshnev@tut.by до 1 мая 2007 года.




**АПБ з`яўляецца партнёрам глабальнай прыродаахоўнай асацыяцыі BirdLife International у Беларусі**

© АПБ, 2007. Інфармацыйны бюлетэнь “Ахова птушак Бацькаўшчыны”
- Распаўсюджваецца бясплатна сярод сяброў АПБ
- Передрук дазваляецца пры ўмове спасылкі на бюлетэнь “Ахова птушак Бацькаўшчыны”, АПБ
- Галоўны рэдактар: Уладзімір Іваноўскі
- Рэдакцыйная рада: Ігар Бышнёў (адказны рэдактар), Аляксандр Вінчэўскі, Сяргей Зуёнак, Віктар Фенчук, Наталля Парэчына, Руслан Шайкін
- Выданне падрыхтавана пры фінансавай дапамозе RSPB, партнёра BirdLife International у Велікабрытаніі
- Калі гэты нумар бюлетэня трапіў да Вас выпадкова, а Вы жадаеце атрымліваць яго рэгулярна - далучайцеся да сяброў АПБ
- Калі Вы жадаеце стаць сябрам АПБ, тэлефануйце нам ці прыходзьце да нас: г. Мінск, вул. Макаёнка 8, пак. 42.
- Наш паштовы адрас: а/с 306, Мінск, 220050, Беларусь Тэл./Факс: 017-263 06 13; E-mail: APB@tut.by